Анатоль Брусэвіч

# *ПАДАЮ Ў НЕБА*

*вершы*

Гародня
2006

УДК 882.6-1
ББК 84 (4 Беі) 6
Б 29

Брусэвіч А. - Падаю ў неба. - Лірыка. - Гарадзенскае гарадское аддзяленьне Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай школы». - Гародня, 2006. - 51 стар.

Зборнік зьмяшчае вершы, створаныя ў розныя гады. Выдаецца ў аўтарскай рэдакцыі.
Анатоль Брусэвіч нарадзіўся ў 1977 годзе ў Гародні. Яшчэ ў школьныя гады пачаў друкавацца ў рэспубліканскіх газэтах і часопісах. Скончыў аддзяленьне беларускае мовы і літаратуры філялягічнага факультэту Гарадзенскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту імя Янкі Купалы (1999) а таксама магістратуру (2000) і асьпірантуру (2003). У 2004 годзе абараніў кандыдацкую дысэртацыю. Працуе выкладнікам катэдры польскае філялёгіі ГрДУ імя Я.Купалы. Аўтар кнігі вершаў «Дуэль» (1992).
Сябра «Гарадзенскага клюбу паэтаў».

УДК 882.6-1
ББК 84 (4 Беі) 6
Б 29

Наклад 100 асобнікаў



## *МОЙ ПЕРШЫ ВЕРШЫК*

Калі блакітным ранкам гаснуць зьнічкі
і ў небе тоне месяца вянок,
мой першы верш бурштынавай сінічкай
заўсёды прылятае пад акно.

Маленькай дзюбай стукае мне ў шыбу,
з апошніх сіл б'е крыльцамі па шклу,
а я ляжу з закрытымі вачыма,
зрабіўшы выгляд, што нібыта сплю.

Мне сорамна, бо некалі са злосці,
што не сьпявае так, як я хацеў,
я выкінуў свой першы верш у восень,
і ён памёр у восеньскай вадзе.

### *ГАРОДНЯ*

Прыемна вярнуцца ізноў у Гародню
апошнім аўтобусам ноччу.
Над горадам месяц, нібыта паходня,
і зоры - Анёлавы вочы.

У горадзе цёмна, і толькі вітрыны
кідаюць нясьмелыя промні.
На поўначы мой затрымаўся гадзіннік...
Дабранач, сьпі, дзетка Гародня.

### *БРУНЭТКА*

У позірку юнай брунэткі
Я бачыў то лёд, то агонь,
Ды толькі ўсё роўна далонь
Лягла неўпрыкмет на каленькі.

Нібыта савецкі разьведчык,
Ці нават жытоўскі шпіён,
Ціхутка другая далонь
Паўзла, агаляючы плечы.

І вось ужо ў позірку гэтым,
Дзе бачў я лёд і агонь -
Жаданьне, і чутны ледзь стогн
На вуснах у юнай брунэткі.

* * *

Au revoir! Іду да іншых
і не вярнуся больш ніколі.
Мне надакучылі ня ролі,
а непрыгожыя афішы.

Іграць жыцьцё ня так складана,
як непрыемна і нязручна.
Я адыду, але балюча
за мой тэатар зруйнаваны.

## *ГОРА ПЕРАМОЖАНЫМ*

Qvo vadis?[1] - пытаецца Слова.
- На захад іду, каб ня бачыць,
Як статак людзей безгаловых
Зьбірае з-пад тытуня пачкі.

Зьбірае, сьмяецца і плача,
І сьніць каляровыя казкі.
Лунае іх позірк удзячны,
Бы сьцяг разарваны на часткі.

Іду каб ня страціць свой голас
За кратамі плачу і сьмеху.
Qvo vadis? - пытаецца Слова.
Vae victis![2]-адказвае рэха.

---

[1] Qvo vadis (лац.) - Куды ідзеш.
[2] Vae victis (лац.) - Гора пераможаным.

* * *

Скончыцца лета праз некалькі дзён.
Прыйдзецца мне даставаць парасон.

Нізкія хмары захочуць ізноў
Плакаць пад нудную песьню вятроў.

Яблык чырвоны ў пажоўклай траве
Будзе валяцца, а дрэвы ў журбе

Скінуць адзеньце, загорнуцца ў сон..
Скончыцца лета праз некалькі дзён.

* * *

Схіляю голаў перад Вамі,
мая прыгожая паэтка.
Ваш шлях, як мой, пакрыты снамі,
яшчэ - пялёсткамі ад кветак.

Ваш шлях ня будзе адзінокім
у край самоты і натхнення.
Але... я чую Вашы крокі
усё далей... і гэта дрэнна.

* * *

На небе месяца ліхтар,
Пад небам месяц ліхтара.
О, ноч, цудоўная пара!
Пара вампіраў і пачвар!

Іду зусім адзін, паэт,
між абыякавых людзей.
Празрысты дым ад цыгарэт
віецца, круціцца, бы зьмей.

І я, прапіўшы ганарар, -
напой, што праўда, быў - мура, -
гляджу, як месяца ліхтар
глядзіць на месяц ліхтара.

### *БЕЛАРУСЬ*

Родная чужая Беларусь,
я даўно ня бачу Твайго твару
Родная чужая Беларусь,
я Твой сын і я Твая ахвяра.

Родная чужая Беларусь,
азірніся, глянь сябе навокал.
Родная чужая Беларусь,
Ты так нізка, але так высока.

* * *

У край, дзе навокал бяскрылыя,
бястварыя і бесхрыбетныя -
ніколі ня вернуцца з выраю
птушкі.

І з краю, дзе ходзяць і плодзяцца
чырвона-зялёныя нехрысьці,
ніколі ў нябёсы ня вернуцца
душы.

***ДА ДНЯ ВОЛІ***

Белая машына з паласой чырвонай,
З крыжам на капоце, зь лічбаю 03,
У табе я ўбачыў сьцяг сваёй Радзімы,
Сьцяг, які ня любяць гады маскалі.

Дык вязі, машына, вуліцаю Маркса
З дома 11, ў домік 27.
Хоць не зразумеюць дурні санітары,
Ўсё ж крычаць я буду: "Беларусь жыве!

## *Я НЕ ПАЭТА*

Я не паэта, о крый мяне, Крышна!
Паэты праколваць вушы не сьмеюць,
хоць выснаваў неяк маленькую кніжку,
завуся я толькі Толік Брусэвіч.

Паэты працуюць ва ўнівэрсытэце.
Напрыклад, Пацюпа, Мазько, Петрушкевіч.
А я ўсяго толькі бедны студэнцік -
от, ведама, нейкі Толік Брусэвіч.

Ды веру, што прыйдзе мой час усёроўна,
напэўна, тады пазайздросціце ўсе вы,
калі замест Леніна выставяць помнік
шчэ большы - і з надпісам Толік Брусэвіч.

* * *

За дзень да сьмерці файна піць віно
зь сябрамі, што памерлі яшчэ ўчора.
Як файна адчуваць сябе тапёрам,
а не акторам сумнага кіно.

Я іншы раз хачу пабыць другім,
але, на жаль, мяне не разумеюць
мае сябры, якія ўжо памерлі,
каб жыць на іншым беразе тугі.

* * *

Навокал ворагі адны.
Іх твары ў дыме цыгарэтным
такія шэрыя, як дні,
што восень адарвала ў лета.

Яны ня зыркнуць, як сябры.
І з залатым руном лістоты
за мной пакоцяцца з гары
у вечны роздум і самоту.

І там, звычайныя, як дні,
мы будзем плакаць ад бясьсільля,
паліць у працы, у агні
сваё апаленае крыльле...

І слова *"не"* і слова *"так"*
ніхто дакладна не пачуе,
пакуль на помніку мастак
гады жыцьця не намалюе.

* * *

Надвор'е шэрае і злое,
таму мне хочацца спакою,
але
завалакло сусьвет смугою,
і дождж варожы зноў настрой мой
псуе.
Усё ня так, усё ня тое.
Апала лісьце залатое -
гніе.

* * *

Мы ўсе, нібыта кніжкі на паліцы,
дзе кожны мае вызначаны кут.
О, Божа мой, як хочацца напіцца,
сябе сваім адчуць сярод паскуд.

***МАЕ ВОЧЫ***

Мае вочы, бы кратэры Марса,
пустыя.
Я халодны і выліты зноў
на падлогу.
Мае вочы, нібыта рамансы
чужыя,
у якіх я кахаю любоў
да чужога.
Мае вочы запіваюцца ўшчэнт
з новым.
Мае вочы падобныя з мовай
Сьвету.
Я стаміўся ад радасных бедаў,
стомы,
і настрой мой заўсёды
зімова-летні.

* * *

Жыць так, каб не хацелася памерці...
Вось сэнс жыцьця, таму я не ў труне,
Таму ня страшны болей дзікі вецер,
Які лістоту ў твар шпурляе мне.

Няхай шпурляе, я ўсёроўна буду
Ісьці туды, дзе за адным сталом
Лілёвы Крышна, Магамэд і Буда
Спрачаюцца аб вечнасьці з Хрыстом.

Туды, дзе Адзінота і Каханьне
Са мной падзеляць яблык залаты,
Дзе ноч у дымэдролавым тумане
Выходзіць зь ніадкуль у нікуды.

Мяне чакаюць там, але чамусьці
Іх не цікавіць мёртвая душа,
Таму назад у свой сусьвет вярнуся -
Жыць так, каб не хацелася сканаць.

* * *

Папяровы сусьвет - ціж ня цуд?
Зоркі зь літараў, неба - са словаў.
Добра ўсё, але толькі і тут
Не схавацца ад сьвету другога.

Іншы сьвет пазірае мне ў твар,
Пасьміхаецца зь неба і зорак,
І дрыжаць яны ў сініх радках
І спадаюць у змрок папяровы.

***БАЛАДА***

Ён быў паэт - слуга банальных словаў.
Яна - гандляркай цнотай і распустай.
Іх зьвёў ня лёс, а толькі выпадковасць,
Таму яны зыходзіліся ў густах.

Яны любілі танныя прыгоды
І не цярпелі шумных авантураў.
Любілі слухаць свой уласны подых,
Зьліваючыся з подыхам натуры.

Яны палілі тыя ж цыгарэты,
Гуляючы апоўначы па парку.
Ды злы разьвёў іх лёс, - ён быў паэтам,
Яна ж была звычайнаю гандляркай.

* * *

Я апошні рамантык
На забытай усімі зямлі,
Мае белыя краты -
Непатрэбныя белыя дні.

Я шукаў сваю мару,
Ды, відаць, яе нехта знайшоў.
Гэты верш, як ахвяру,
Я прыношу на вогнішча слоў.

***Дзень нараджэння паэта***

Мутнае вока зімовага неба
Плакала сьнегам.
Брудныя пальцы вуліцаў гораду
Стылі і ад холаду.
Дым з чорных комінаў знакам бясконцасьці
З жалем узносіўся.
Дровы стаялі, як духі ці прывіды,
Мёртвыя нібыта.

Але ўсё роўна цудоўная дата -
Сьнежня дзевятага.

* * *

Маркотны дождж, ізноў паненка восень
свой пацалунак ставіць на акне,
давай кахацца будзем на падлозе,
няхай мой ложак сёння адпачне.

Як файна аддавацца весялосці,
што часам узьнікае між людзьмі.
Давай кахацца будзем на падлозе,
ды ціха, каб ня чулі за дзьвярмі.

* * *

Калі дрэвы бяруцца за вёслы
Сваіх ценяў, каб плыць у зьмярканьне,
Я заўсёды самотны і злосны,
Бо ізноў пачынаецца раньне.
Як заўсёды паўторыцца ўчора:
Тыя ж людзі і тыя ж парадкі.
Ну іх к д'яблу! Вялікае гора -
Адзін дзень не схадзіць на заняткі.

* * *

Каб стаць мяжой між днём і ноччу,
Я ў шэры колер апрануся,
Няхай па верасьнёўскім лузе
Са мною побач час мой крочыць.

Мы пойдзем зь ім у жоўты верас,
У водар траваў, пах мядунак.
І я ня буду болей сумным,
Хоць апрануся ў колер шэры.

## *ГІТАРА*
## *акратэлеверш*

***Ах***
***вяруюУ. Захараву***

Гукаў крыштальна-бурштынавы высьціг
Іншы сусьвет, іншыя выйсьці
Тонкай журбы дыямэнт.
Але ж на сэрцы не шэрая фарба,
Рэзкіх кантрастаў суцішыўся варвар
Альфы, амэгі - няма.

## *МАНІФЭСТ ДЭКАДАНСУ*

Падаць таксама трэба прыгожа,
Як падаюць цені, як падаюць промні,
Як падае ў неба касьцельная готыка,
Як позірк спадае ў бяздоньне.
Падаць трэба прыгожа.
Але ня так, як плявок ці акурак,
Як вы, паэты-збачэнцы і блазны.
Падаць трэба, нібыта віхура,
Што зьмятае ўсё, акрамя дэкадансу.

* * *

***акраверш***

***Ахвярую В. Клунейку***

Стыне вечар у кубку сусьвету.
Яблык месяца згніў напалову.
Белым зьверам то думкі, то словы
Разьдзірае халоднае лета.
У бясконцым хаджэньні авалам
Вакол ценяў уласных і нечых,
Ілюзорная вечная слава
Танным шалікам хутае плечы.
Але ж, сябра, ці трэба нам гэта?
Лепей выпьем за жоўтую восень
І паціху пакрочым па лёсе
Юных школьніц кахаць і студэнтак.

* * *

Яшчэ ня вечар і ня дзень,
і толькі гоніць ад людзей
час.

Халодны позірк са слязой,
зьвязаў бязьлітасны спакой
нас.

Ляціць маўчаньне ў нікуды.
Зязюля лічыць нам гады:
раз...

Сябе шукаю між сяброў,
але пакуль што не знайшоў
нас...

## *НЯДЗЕЛЯ*

Нядзеля. Раніца. П'ю каву.
Яшчэ ўсе сьпяць. Ну, і няхай.
Нібы зачыненая крама,
гарыць на ўсходзе небакрай.
    А месяц, нібы лямпа ў бары,
    дзе мне падвыпіты маскаль
    гразіў пад звон крыштальных чарак,
    ды я на ікс яго паслаў.
І піў далей у адзіноце,
а навакол былі сябры.
Усе яны пілі за восень,
я ж за §ясну глытаў свой дрынк.
    Пасьля пад шыльдаю "No smoking!"
    я запаліў, і шэры дым
    ператварыўшыся ў аблокі,
    паплыў праз столікаў рады.
Калі я выкінуў акурак
і думаў запаліць ізноў,
бармэн сказаў: "У нас не курят",
і я адтуль пайшоў дамоў.
    Нядзеля. Раніца. Вяз густу
    абсыпаў дробны сьнег зямлю.
    Ну, вось і ўсё, у кубку - пуста.
    Вазьму яшчэ крыху налью.

## *ПРА СЯБЕ*

Няголены гультай разьлёгся на канапе.
Глытае моўчкі дым ад танных цыгарэт.
Вакол яго - бардак ці паэтычны хаас...
Які натхняе так на думкі пра сусьвет.

А за акном яго і ціха і прыгожа,
На дрэвы шлюбны строй надзеў вясёлы май.
Ды сумна гультаю, бо скончыліся грошы,
таму вось пра сусьвет і думае гультай.

* * *

Нібы восеньскі дождж,
разаб'юся аб шэры асфальт.
Буду меншым, чым ёсьць,
і такім жа халодным, як дождж.

Не спрабуй пазіраць
у люстэрка самотнай вады.
І вада - гэта я,
і шкада, што ў ва мне больш ня ты.

Ува мне - мая злосьць,
мая дурасьць таксама ўва мне.
Разаб'юся аб дождж,
ён сьцякае па чорным акне...

* * *

Калісьці я любіў вясну,
Але сяброўкай стала восень
Мой лес любіць яе адну.
На жаль, ніхто ля ўпёк ад лесу.

Мой шлях прасякнуты наскрозь
Чырвоным лісьцем і туманам
Мне дзікі вецер пора ў скронь
Халоднай руляю нагану.

Гляджу ў нябёсы, бо ў ваду
Цяпер баюся я ўзірацца.
Сябе ўсёроўна не знайду,
А толькі ворага і здрайцу.

Калісьці я любіў вясну,
Ды прамяняў пяшчотны квецень
На дажджавы канвойны стук.
На восень шэрую і вецер.

## ***ПАДАЮ Ў НЕБА***

Падаю ў неба, і брудныя плошчы
з кожным імгненьнем вышэй.
Падаю, моцна заплюшчыўшы вочы,
каб не глядзець на людзей.

Людзі ня могуць пападаць у неба,
маючы крылы віны,
падаюць толькі нашчадкі Вэнэры,
праўнукі бога вайны.

Падаюць тыя, хто здолеў заплюшчыць,
але ня страціць вачэй.
З кожным імгненьнем і людзі і плошчы
тонуць глыбей і глыбей.

* * *

Ізноў шукаю асалоду.
У ёй ратую вечны сум.
Таплю штодзённыя прыгоды
і адзінотны шумны тлум.

Яна, адзіная на сьвеце,
чытае думкі па вачах,
а потым кажа: "Сьпі, паэце."
Ды толькі той памёр на днях.

***ЗЯМЛЯ***

Зямля - вялікая магіла.
Што я раблю на ёй - жывы?
Ізноў пакінутыя сілы
мяне знайшлі сярод травы.

Сярод травы сухой і цьвёрдай,
падобнай тварам на пясок,
я выпіў новыя акорды
другога я, нібыта сок.

Нібыта сок, разьліта вечнасьць -
па кроплі падае на дол.
Чамусьці хочацца прылегчы
душой на хірургічны стол.

На хірургічны стол надзеі,
які пад цяжарам маім,
нібы вада, пахаладзее,
пасьля разьвеецца, бы дым.

Бы дым кастра і ціхай ночы,
празрыста-шэрай, як ральля.
Мне ціхім голасам дзявочым
пяе спрадвечная зямля.

* * *

Думка самотная гоне ўва мне.
Думка вясёлая ціха згарае.
Хутка сьвятло зазвініць на акне,
срэбнай манэтаю скоціцца ранак.

Я на хвіліну зраблюся пустым,
нібы паветра пад час навальніцы
Разам са змрокам адыйдзеш і ты,
змрочнага шчасьця нявінная жрыца

* * *

Сонца акурак датлее на прыступках неба,
вечар утопіцца ў вогнішчы жоўтых вітрын.
сьціхне запраўднасьць, а мы ператворымся ў шэпат-.
Потым у подых, а потым я буду ні з кім.

Буду адзін, бо аддам свае вусны і цела
мяккім нябачным слядам пацалункаў тваіх.
Бы ўпершыню, буду гладзіць рукою нясмелай
хвалі трохкутнічка, персяў тугія саскі.

Ціха схілюся над аркушам сцёгнаў і ножак,
каб напісаць языком свае вершы бяз слоў.
Ціха ўвайду, адзавецца маўклівы мой ложак,
Злы на мяне, што ізноў абарваў яго сон...

Ранак заспаны на струнах тралейбусных ліній
марш заіграе на гонар чарговага дня.
Буду з табою, каб быць абсалютна шчаслівым.
Толькі з табою адною душа не адна.

***АГОНЬ***

Цалуючы чорны камін,
Шаптаў мне чырвоны агонь
Імёны забытых багоў
І словы малітваў да іх.

Шаптаў: "Зразумей і прымі
Мяне, бо табе я, як брат,
Багі - не дарога назад.
Наперад у новыя дні.

Хай моц старажытных багоў
Запоўніць старую душу,
Паслухай, а я раскажу
Пра іх. Толькі кінь трохі дроў".

Я кінуў, каб той распавёў,
Л ён, пасьвятлеўшы, сказаў:
"Прастак, я цябе ашукаў,
Няма аніякіх багоў".

Сказаўшы, замоўк і прылёг
На попел - відаць, адпачыць.
І ціха ў абдымках мачы
І прэла сухое гальлё.

* * *

Пакінуўшы ноч, ты ад'едзеш, а потым
надыдзе і зьнікне пустая самота.
Але перад тым на прыступках вакзалу
падумаеш, пэўна: "Так многа і мала
мы знаді адно аднаго". І растанеш
у шэрым натоўпе і промнях зьмярканьня...
зь вяртаннем!

* * *

***Ахвярую Э. Мазько***

Мілы мой сябра,
Слова "калісьці" -
Ёсьць рэчаіснасьць.
Слава і лаўры -
Гэта ня ісьціна,
Больш таго - марнасьць.
Згубная справа -
«лева» і «права»,
лепей па цэнтры
жыць і маліцца
духу правінцыі,
пылу і ветру.

## *СЬВЯТЛАНА акратэлеверш*

Сьвет выпіўшы да шчэнту, Шэры Зэўс
Віном паэтаў поўніць свой рэзэрв.
Яму ня дам напіцца толькі я,
Таму што у віне маім - брыльянт.
Ледзь вуснамі кранеш яго - фінал.
А хочаш, я табе налью віна?
Налью і гэта будзе не падман,
А ціхі сон пра сны, якіх няма.

## *ЛІХТАР*

Па дванаццатай. Ноч. Ані гуку, ні зоркі наўкол.
Цені дрэваў у сьне падпіраюць нябесную столь.

Галаву нахіліўшы, стаіць адзінокі ліхтар.
Вецер дзіка сьмяецца, кідае лісты яму ў твар.

Хутка згасьне і ён, каб надоўга пакінуць мяне.
Пахаваецца ўсё, зачыніўшыся ў чорнай імгле.

### ***ГАРОДНЯ***

Сьвятлом сваіх вокнаў ня грэюць
дамоў непрыгожыя скрынкі.
Заснула пад сьнегам Гародня,
хай сьніцца ёй травеньскі дождж.
Стаяць, як капліцы старыя,
маркотныя будкі прыпынкаў.
Тралейбус, пусты і халодны,
ляціць у бязьлюдную ноч.

У цемры, сьляпой і марознай,
пішчаць правады, нібы ведзьмы,
ляжаць у маўчаньні пакорным
дарог ледзяныя крыжы.
Такімі хвілінамі можна
любіць і ў той час ненавідзець,
нібыта жанчыну, свой горад,
знаёмы і разам чужы.

* * *

Па кроплі высыхае вечар,
і захад болей не чырвоны.
Я зноў задумаўся аб нечым,
а сам глядзеў на сонца ў поўдні...

Ад сонца ўцёк мой цень у заўтра...
І я адзін пайшоў дадому.
У доме тым чакалі ката,
таму ня верылі нікому...

Таму і мне не адчынілі.
Ну і няхай! Бяда якая!
Нібы вада ў нябёсах сініх,
па кроплі вечар высыхае.

## ***СВАБОДА***
## ***мультыакраверш***

Сон сплывае срэбнаю слотаю,
Выспы восеньскіх вокнаў вось-вось
Апякуць агнявымі абгорткамі
Бесклапотную безьліч бяроз.
Одум оргіяў, ордэны, ордэры,
Дагараючы, джаламі дробнымі
Адраджэння абвесьцяць анонс.

## ***ПАКУЛЬ***

Пакуль яшчэ магу сказаць: пакуль!
бывай, мой сябра, кліча мяне восень,
І дзень, які спыніўся на парозе,
і шлях, які выходзь зь ніадкуль.
Пакуль!

***ЗЬМЕСТ***



**Анатоль Брусэвіч**

**ПАДАЮ Ў НЕБА**

Вершы

Рэдактар-кансультант: Данута Бічэль
Мастак Алесь Аўчыннікаў
Кампутарны набор: Наталя Маліноўская, Станіслаў Пачобут
Шыхтоўля: Аніта Бубко, Станіслаў Пачобут
Карэктар: Юрась Пацюпа
наклад 100 асобнікаў